# ЖЭЎЖЫК

ЗАБАЎЛЯЛЬНЫ ЧАСОПІС ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ АД 6 ГОД
№5, студзень 2020



## Зімовыя святы

# ЗМЕСТ









# З Калядамі вас!

Гэтае цудоўнае свята адзначаецца ў Беларусі амаль цэлы месяц.

Бо 25-га снежня пачынаюцца Каляды для каталікоў, уніятаў і пратэстантаў, а 7-га студзеня - для праваслаўных і сканчаюцца для іх толькі 19-га студзеня.

Святочны перыяд вельмі радасны і вясёлы, аднак у мяне было нямала працы ў гэты час.

Па-першае, трэба было выбраць пераможцаў у конкурсе лістоў.

У ім паўдзельнічалі 19 чалавек і нават цэлы клас! Прызнаюся, што падвесці вынікі было няпроста.

Па-другое, мне прыйшлося падумаць над тым, якім быў 2019-ы год для нашага часопіса?

За гэты час выйшла 4 нумары. З'явілася шырокае кола чытачоў і сяброў у Фэйсбуку і Інстаграм.

Выданне павялічылася да 32 старонак і істотна палепшыла свой дызайн.



Па-трэцяе, у 2020-м годзе нас усіх чакаюць вельмі важныя і прыемныя змены.

Наступны нумар «Жэўжыка» ужо будзе надрукаваны накладам у тысячу асобнікаў!

І гэта адбудзецца дзякуючы таму, што наш часопіс падтрымала вялікая колькасць людзей.

**Дзякуй вам усім за такую істотную дапамогу, сябры!**

**Разам мы зможам яшчэ больш і зробім выданне яшчэ лепшым!**

**Заставайцеся з намі!**



# Хто ходзіць калядаваць?



Ці заходзілі да вас падчас зімовых святаў калядоўшчыкі*?
На жаль, гэта цяпер рэдкія госці, асабліва ў гарадах.
А якія яны бываюць?
Калядоўшчыкаў можна падзяліць на дзве групы: жывёльныя і чалавечыя персанажы.



### Маскі жывёл.

Каза – пэўна, самая вядомая з іх. Яна заўсёды ўспрымалася як сімвал жыццёвага ладу, ураджайнасці і дабрабыту. А ў калядны час таксама ўвасабляла стары, адыходзячы год.
Мядзведзь у гурце калядоўшчыкаў абазначаў гаспадара звяроў і лесу.
На Палессі былі раней яшчэ і маскі Быка ці Тура. Гэты вельмі старажытны вобраз азначае плоднасць. Конь у калядным карагодзе сустракаўся намнога радзей. Часам на ім мог ехаць вершнік.
Сярод жывёльных масак яшчэ бытавалі ў Беларусі Воўк, Ліса, Заяц, Жораў і Дзяцел.

### Чалавечыя персанажы

Дзед-павадыр быў самым важным сярод іх. Ён вадзіў Казу ці хадзіў у пары з Бабай, а таксама кіраваў усім ходам вясёлага дзейства.
Цікава, што ў калядных песнях Дзед апісваецца быццам самы люты вораг Казы, які яе абавязкова забівае. Дык вось нездарма.
Дзед увасабляе ў калядным гурце самога Бога, які гэтак вяршыць лад у зямным свеце: кіруе часам, сканчае стары год і распачынае новы.
Баба хадзіла ў брудным, рваным адзенні і нагадвала нават Баба-ягу.

*Куцця - святочная вячэра на Каляды, а таксама галоўная страва святочнага стала (каша з ячных круп)

*можна казаць каляднікі







Заўсёды да гэтай вясёлай кампаніі далучаліся Вайсковец, Доктар-шарлатан, які лячыў усіх гарэлкай, Цыган, часам Яўрэй. Сустракаліся яшчэ маскі Смерці, Чорта і Анёла. У каталіцкіх раёнах Віцебшчыны і Гродзеншчыны ад 6 студзеня да 2 лютага (між святамі Трох каралёў і Грамніцамі) абыходзілі дамы маскіраваныя ў гонар трох Каралёў, якія па біблейскай легендзе ішлі на святло ад зоркі да месца нараджэння Хрыста. Зусім без масак і касцюмаў, з хрысціянскімі песнямі ў гонар нараджэння Хрыста наведвалі хаты звездары. Яны насілі з сабою «звязду» – самаробную калядную зорку.

### Чым яшчэ адметны нашы Каляды?

Асобна хочацца адзначыць унікальны абрад «Калядныя цары», што зафіксаваны ў Менскай вобласці. У іх гурт уваходзіла ад 5 да 9 хлопцаў. Кожны граў ролю пэўнага цара, меў сваё імя. Да іх яшчэ далучаліся Музыкі, Доктар, Дзед і Баба. Зайшоўшы ў хату, гэтыя артысты разыгрывалі сцэнкі з бойкай, лячэннем забітых Цароў, танцавалі і спявалі.

У 2009г. абрад «Калядныя цары» з вёскі Семежава (Капыльскі раён) быў унесены ў спіс Нематэрыяльнай сусветнай культурнай спадчыны ЮНЕСКА. Чым мы, беларусы, безумоўна можам ганарыцца.



Нашы продкі лічылі, што візіт каляднікаў абавязкова прынясе шчасце, здароўе і дабрабыт на ўвесь год.

**Таму смела адчыняйце свае дзверы гэтым вясёлым гасцям!**



Та-дааам!

# Абвяшчаю пераможцаў конкурсу лістоў на тэму «За што я люблю Каляды ці Новы год?».

У ім паўдзельнічалі 19 чалавек і нават цэлы клас!
Акрамя лістоў я атрымаў яшчэ шмат малюнкаў ад чытачоў.
Прызнаюся, што падвесці вынікі было няпроста...

**5 асноўных падарункаў атрымалі:**

Кіра Аксёнава (Барысаў) - «Вандроўка Пэтсана»
Стась Бенько (Гомель) - «Снежны чалавек»
Уладзь Сырэц (Мінск) - «Чырвонае крэсла»
Ангеліна Літвінчык (Кобрын) - «Ёрдзіс»
Аліна Васількова (Рагачоў) - «Калядная каша».

Яшчэ спецпрызамі ад Выдавецтва «Кнігазбор» былі узнагароджаны:
Ангеліна Вятлова (Маладзечанскі раён) - «Пітэр Пэн»
Казімір Казлоўскі (Полацк) - «Віта Белая Крэска».

**Астатнія удзельнікі абавязкова атрымаюць прыемныя памятныя падарункі.**



Фота: Уладзь Сырэц

Хачу падзяліцца з вамі цудоўнай традыцыяй, пра якую расказаў мне Уладзь Сырэц, вучань 5"Ж" класа сярэдняй школы №54 г.Мінска, у сваім лісце на конкурс.

## Слоік добрых успамінаў!

Сустрэча Новага Года ва ўсім свеце звязана са шматлікімі традыцыямі. Існуюць яны і ў кожнай сям'і – свае, сямейныя. Ёсць і ў маёй сям'і такая асаблівая, на мой погляд, добрая і незвычайная традыцыя. Кажуць, што ў Новы год трэба браць ўсё толькі самае лепшае і добрае, а ўсё дрэннае пакідаць у адыходзячым годзе. Чатыры гады таму мая матуля прапанавала вельмі цікавую ідэю: на працягу года ўсе адметныя падзеі, якія адбываюцца з намі, запісваць на асобнай рознакаляровай паперцы і пакідаць у спецыяльна прыстасаваны "СЛОІК ДОБРЫХ УСПАМІНАЎ".

Так, у 2016 годзе з'явіўся наш першы слоік, тады мне было 8 гадоў. Мы з татам выбралі прыгожы сасуд, упрыгожылі яго на свой густ і падпісалі год.

Наш слоік стаіць на бачным месцы і перыядычна мы з бацькамі папаўняем запас добрых уражанняў і ўспамінаў. Запісваем усе добрыя, радасныя, чуллівыя моманты з нашага жыцця. Кожнай цікавай падзеі – асобны лісток паперкі, згортваем трубачкай пісульку і – у слоік! Запісачкі паступова накапліваюцца і да Новага Года наш цудоўны сасуд збярэ ў сябе поўную шклянку нашых дакументальна зафіксаваных уражанняў.

І вось самы хвалюючы і прыемны момант – 31 снежня! За святочным сталом мы адкрываем наш Цудоўны Слоік. Што тут пачынаецца?! Смех, радасць, увесь час гучыць: "... а памятаеш, памятаеш?.." Мы зноў і зноў прыгадваем усе прыемныя падзеі, нашыя маленькія альбо вялікія дасягненні, новыя знаёмствы, яркія эмоцыі, смешныя гісторыі, захапляльныя вандроўкі, усё тое добрае, што адбылося з намі ў адыходзячым годзе. Вы не ўяўляеце, які гэта выдатны станоўчы зарад, як моцна ён аб'ядноўвае маіх самых родных людзей!

Я вельмі ганаруся, што ў маёй сям'і ёсць такая незвычайная традыцыя! І таму я раю ўсім с 1-га студзеня пачаць збіраць пазітыўныя моманты і падзеі свайго жыцця... Каб праз шмат дзесяцігоддзяў ужо сваім дзецям і ўнукам паказаць гэтыя цудоўныя слоікі і пакінуць наступным пакаленням добрыя ўспаміны і выдатныя традыцыі сям'і

**Добрых вам успамінаў!!!**

У лісце захаваны аўтарскі правапіс.

# Дапамажы Жэўжыку знайсці дарогу дадому



Людзі кажуць, калі ўзімку гуляць у лесе, можна пачуць нейкі грукат, як быццам нехта б'е па пні ці дрэве. Калі у гэты час спытаць, хто гэта стукае, на гэта адказвалі...
Разгадай шыфроўку і даведаешся, што на гэта адказвалі.







# Штучны снег



Ну і зіма ў нас цяпер!.. Снегу мала-мала было пакуль што. Цёпла, мокра і сумнавата.

А давайце самі зробім сабе цуд, каб павесяліцца?

Гайда рабіць штучны снег!

## Для эксперыменту нам спатрэбіца:



вада

+



міска

+




сода

+




крухмал

+




пена для галення

## Спосаб 1

Спатрэбяцца крухмал
і пена для галення.
Насып шклянку крухмалу
ў місу.



Дадавай пакрысе пену
і перамешвай, пакуль маса
не пачне ляпіцца.
Калі раптам будзе шмат пены,
дадай яшчэ крыху крухмалу.



## Спосаб 2

Спатрэбяцца сода і вада.
Насып шклянку соды ў
місу.



Дадай 1 сталовую лыжку
вады і перамяшай. Працягвай
дадаваць па лыжцы вады,
пакуль маса не пачне
ляпіцца.



У снег ты можаш дадаць
бліскаўкі, каб ён стаў
прыгожа блішчаць.



*Вось так з самых простых рэчаў
можна атрымаць маленькі снег,
няхай і штучны.
Галоўнае, што ён ёсць!*

# Загадкі

Ох, незвычайная ж гэта пара года – зіма: часта такая вясёлая і казачна прыгожая, але нярэдка і вельмі халодная ды доўгая!..

І столькі файных гульняў пад час зімовых месяцаў ёсць у дзятвы. А бывае, што і зусім нельга выйсці на вуліцу ў занадта вялікі мароз ці як завіруха разгуляецца.

Тады так прыемна пасядзець у цёплым доме, пачытаць наш часопіс і паразгадваць вось такія загадкі, у якіх добра адлюстраваны няпросты характар зімы.

1. Цякла, цякла
і пад шкло лягла.

2. Пятрок ля варот
цяпло ўвалок,
сам не бяжыць,
а стаячых не любіць.

3. Ішоў генерал,
з усіх шапкі раздымаў,
а трое не даліся.

4. Ляцеў птах, на ваду -
бах. Вады не скараціў,
на дно патануў.

5. Прыйшла баба з
вятрамі, з белымі снягамі,
прывяла з сабою
дзеда з барадою.

6. Улетку адпачываюць,
а ўзімку дзяцей катаюць.

7. Удзень шкло разбіта,
а на ноч устаўлена.

8. Са страхі морква вісіць,
да зямлі не дастае,
паху не мае, зімой вырастае.

# Рэбус







# Блытанка

У словах літары паблыталіся месцамі.
Паспрабуйце пераставіць іх правільна, прачытайце, што выйшла,
і знайдзіце адно лішняе слова ў кожным шэрагу.

1. авкакс, тзсудьне, жнеаьнс, ылюл
2. кіакнь, якдаыл, жыыл, інакс
3. вязае, цаямцеіл, талбейак, реевц
4. кірпен, кекуцрі, манцыал, ухажк

Калі Санта-Клаўса не было, нехта з гномаў з'еў яго вячэру – поўную талерку марожанага. Іншыя гномы ведаюць, хто гэта зрабіў, але не выдаюць віноўніка. Аднак і Санта-Клаўса яны любяць, таму кожны з гномаў сказаў роўна адзін праўдзівы факт.




Аднак гэтага было дастаткова, каб Санта-Клаўс зразумеў, хто з'еў яго марожанае – гэта быў... Хто??



# Каложа:

## 800 гадоў над Нёманам

Каляды інакш яшчэ называюць **Раством (Божым Нараджэннем).** У гэты дзень вернікі-хрысціяне абавязкова ходзяць у царкву (у нас – у царкву ці касцёл). Таму пагаворым сёння пра адну вельмі незвычайную і цікавую царкву.




### Равесніца храма Еўфрасінні Полацкай

**Барысаглебская царква** паўстала ў Горадні ў маляўнічым месцы, на высокім беразе ракі Нёман.

Даследчыкі мяркуюць, што гэта адбылося ў другой палове 12 стагоддзя.
Выходзіць, гэта **адзін з самых старажытных будынкаў** у Беларусі, што захаваўся да нашага часу! Старэй толькі Спаса-Еўфрасінеўская царква ў Полацку.



Збаны-галаснікі

ўмуроўваліся ў сцены і столь горлам унутр для паляпшэння акустыкі (чутнасці), аблягчэння сцен і скляпенняў.

### *Адкуль з’явілася другое «імя»?*

Горадзенскую царкву ў народзе яшчэ называюць **Каложскай (ці проста Каложай).**

Паводле адной версіі, так здарылася, бо на месцы будоўлі знаходзілася *урочышча Каложань* (гэта значыць, месца, дзе б’юць крыніцы).

Паводле другой версіі, такая назва паходзіць **ад пскоўскай крэпасці Каложа:** палонных жыхароў адтуль пасяліў каля Барысаглебскай царквы князь Вітаўт.



У матэрыяле выкарыстаны фотаздымкі Змітра Іўчанкі і Андрэя Вашкова. www.fotobel.by
Малюнкі - Юліі Галавач.

## *Муравана-драўляныя сцены*

На жаль, месца для будоўлі Каложы адразу было абрана няўдала. Хуткаплынны Нёман паступова падмываў бераг, што ствярала вялікую рызыку разбурэння царквы.

Першы выпадак здарыўся ў 1720г. Тады нахіленую сценку храма змагла ўратаваць толькі пасадка дрэў. Гэта не дало грунту, а следам за ім і самой царкве, абрынуцца ў прорву.

Але праз 130 гадоў дзве сцяны будынка амаль цалкам разбурыліся. Тым не менш, у хуткім часе Каложская царква была адноўлена з дапамогай дрэва.

Вось так яна набыла вядомы нам сёння выгляд: стала напалову мураванай, напалову драўлянай.




Мураваныя сцены звонку не атынкаваны. Мы можам ўбачыць прыгожую муроўку з плінфы (тонкая цэгла) і рознакаляровых валуноў






## *Найноўшая рэканструкцыя*

Пару гадоў таму драўляныя сцены Барысаглебскай царквы перажылі чарговы рамонт.
Іх першапачатковы каркас рэканструктары пакінулі, а вось вонкавую абшыўку замянілі на тэрмамадыфікаваную* хвою.
Акрамя таго, усярэдзіне царквы з'явілася археалагічнае акно.
Гэта азначае, што частку падлогі зашклілі, адкрыўшы для агляду прымурак і рэшткі згубленай калоны.
Усе гэтыя адметнасці старажытнай Каложы далі падставы вылучыць яе кандыдатам на ўнясенне ў спіс Матэрыяльнай сусветнай культурнай спадчыны ЮНЕСКА.

* тэрмамадыфікаваная хвоя - драўніна, якую награюць ад 160 да 250 градусаў, што надае ёй звыштрываласць, падобную да дубу ці чырвонага кедру.

# Зімовая віктарына

Правілы:
Калі трапляеш на чырвоную клетку, то мусіш хутка адказаць на пытанне ці выканаць пэўнае заданне, звязанае з зімою. Калі не можаш гэтага зрабіць, то прапускаеш ход.




ФІНІШ
А якой гадзіне пачынаюць святкаваць Новы год?
Як называецца беларускі народны лялечны тэатр?
Назаві тры элементы зімовага адзення.
Назаві дзве краіны, дзе не выпадае снег
Пералічы тры віды зімовых гульняў
Якія птушкі застаюцца зімаваць у Беларусі?
Прыдумай тры словы, звязаныя з зімою, якія пачынаюцца на літару Л
Назаві дзвюх беларускіх жывёл, што кладуцца спаць на зіму
Калі адзначаецца дзень Святога Міколы?
Якія дзве казкі пра зіму ты ведаеш?

# Словаловы

| | | | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| З | С | Н | Е | Ж | А | Н | Ь | В | Е | С | Я | С | А | Н |
| А | В | С | Б | І | Л | С | Н | Е | Г | Я | Л | О | С | К |
| К | Е | Я | У | Г | Ь | К | І | В | А | Л | Б | А | Ц | І |
| У | О | Х | С | Е | Л | Л | Ю | Т | Ы | І | Л | Т | Ь | Н |
| Ц | Л | Я | К | О | Ў | Р | К | С | К | Н | Е | Й | К | Л |
| Ц | А | Д | А | Р | З | О | А | В | А | К | Л | О | А | Ё |
| Я | В | Я | Ч | Э | А | Г | Ж | Я | К | А | П | Д | Е | Н |
| Л | Ш | Е | Н | Ь | Н | К | А | Т | А | Ц | Я | З | В | А |
| Я | Я | З | Н | А | К | Ы | Л | А | В | А | А | Ь | З | М |
| Д | З | Д | У | С | В | Е | Ё | Д | К | А | З | Я | Д | Я |
| С | Т | У | Р | А | Р | Ч | К | А | М | У | Н | М | О | Ш |
| Ц | А | Д | А | М | О | Ы | К | А | Р | Ш | К | А | К | А |
| У | П | К | І | К | З | Д | З | Я | Ц | І | Н | В | А | М |
| К | Е | Р | К | А | Л | Я | Д | Н | І | К | С | Т | З | І |
| З | Ю | З | Я | Р | А | Н | І | Ш | І | П | А | В | У | К |

## Знайдзі словы сярод літар

Словы можна прачытаць па гарызанталі, вертыкалі, злева направа, справа налева.
Будзь вельмі ўважлівы!
Калі знойдзеш усё, складзі слова з літар, якія засталіся.

Анёл, батлейка, бусел, весялосць, вячэра, гіль, горка, зіма, каза, какава, каляды, кармушка, коўзанка, лёд, люты, лядзяш, мароз, мядзведзь, мяшок, падарунак, санкі, свята, снегавік, снежань, студзень, холад, цукеркі, цяпло, ялінка.

# Галоўны зімовы дзед



Думаеце, што гэта Дзед Мароз?
Не-не.
У нашым краі яго не было ажно да 20-га стагоддзя.
Затое ўвесь час у міфах і паданнях беларусаў існаваў Зюзя.

Яго смешнае імя  роднаснае дзеяслову *зюзець*, што значыць «мерзнуць». А таксама беларусы часам называюць мароз «зюзем».

Гэты казачны персанаж увасабляў для нашых продкаў зімовы холад і сцюжу.

Выглядаў Зюзя як невысокі дзядок, апрануты ў белы кажух, без шапкі і ботаў.

Узімку ён бегае па лясах і палях, стукае сваім посахам альбо булавою. Ад гэтага вада пакрываецца паўсюль лёдам.

Яшчэ Зюзя не любіць тых, хто скардзіцца на холад, а бадзёрым людзям дорыць здароўе і румянец.

Раней на Каляды Зюзю самым першым "частавалі" куццёю. Гаспадар хаты накладаў яму лыжку кашы ў асобную талерку альбо кідаў яе за акно.

Цікава, што ў наш час у Зюзі з’явілася нават прозвішча - Паазерскі! Пасля таго, як ён займеў сядзібу на поўначы Беларусі, на Паазер’і (у Пастаўскім раёне).

Да беларускага зімовага дзеда прыязджала шмат гасцей, як да Дзеда Мароза ў Белавежскую пушчу.

Праўда, пару гадоў таму Зюзя з’ехаў з гэтай сядзібы, але абяцаў хутка вырашыць пытанне са сваім новым месцам жыхарства, каб зноў запрашаць да сябе дзетак і дарослых.

Зюзя Паазерскі



Прывітанне!
Адкажы, калі ласка,
чаму Новы год
святкуецца ўзімку?
Саша Кузьмянкоў, 10 год




enero




Вітаю,

Саша!

Гэтае свята вельмі старажытнае. Адзначаецца згодна з прынятым у пэўны час календаром.
Так пачатак года з 1-га студзеня быў уведзены рымскім імператарам Юліем Цэзарам больш за 2 тысячы гадоў таму.
Да гэтага рымляне святкавалі Новы год на пачатку сакавіка.
Чаму Цэзар абраў менавіта студзень? Бо гэты месяц прысвячаўся богу Янусу, апекаваўся пачаткам любой справы. Ад яго імя паходзіць назва студзеня у многіх мовах:

у англійскай - January,
у нямецкай - Januar,
у французскай - janvier,
у іспанскай - enero,
ў рускай мове - январь,

Янус быў двухаблічны, мог адначасова азірацца ў мінулы год і глядзець у будучыню.
Новы каляндар Цэзара з дапамогай каталіцкай царквы паступова пашыраўся па свеце. Так адбылося і з беларускімі землямі. Гісторыкі лічаць, што святкаванне Новага года з 1-га студзеня ў нас магло пачацца пасля прыняцця вялікім князем літоўскім Ягайлам каталіцтва ў 1387 годзе.

Аднак да гэтай падзеі продкі беларусаў «пачыналі» Новы год з 1-га верасня (па візантыйскім летазлічэнні).
І цікава, што гэтая традыцыя праіснавала яшчэ да 16-га стагоддзя: больш, чым 100 годоў.




January

JANVIER

Januar









Жэўжык, мне цікава пабольш даведацца пра калядную казу!

Стась Бенько, 5 год



Вітаю, Стась!

Трошкі пра яе ўжо напісалі ў гэтым нумары (глядзі старонкі 4-5). Але давай дадам яшчэ цікавенькага :)

Каза - гэта вельмі пашыраны і адзін з самых важных калядных персанажаў. Яна сімвалізуе дух поля і нівы, гарантуе ўраджай на будучы год.

Гэтая жывёла павінна не проста завітаць у дом, але добра паскакаць, паматляць хвастом, памахаць рагамі. А гаспадары мусяць шчодра адарыць яе за гэта:

«Дайце ж казе сала, каб каза ўстала,
А на рожачкі - два пірожачкі!»

Казой раней быў малады жвавы хлопец, які насіў маску і пераапранаўся ў вывернуты мехам вонкі кажух. А ў наш час гэтую ролю ўжо могуць выконваць усе: дзеці і дарослыя, хлопцы і дзяўчаты.

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| | 6 | 1 | 4 | 3 | 5 |
| 3 | | 2 | 6 | | 4 |
| 1 | 4 | | | 2 | 6 |
| | 1 | 5 | | 4 | |
| 5 | | 4 | 2 | | 1 |
| | 2 | | 1 | 5 | |

Размясці лічбы ад 1 да 6. У кожным радку, слупку і прамавугольніку яны сустракаюцца толькі адзін раз.

Знайдзіце дзве сняжынкі, для якіх няма пары



# Калядная вандроўка

Дапамажы снегавіку дайсці да святочнай ялінкі.
Ён можа наступаць на новую купку снегу толькі,
калі прыбавіць 6 ці адняць 2.
Снегавік можа ісці улева, управа, уверх ці ўніз.

| | | | |
|---|---|---|---|
| 17 | 22 | 28 | 30 |
| 18 | 24 | 34 | 32 |
| 12 | 14 | 16 | 18 |
| 6 | 4 | 10 | 14 |

Разгадай, якая лічба схавалася за кожным малюнкам.




Адказы на заданні ты знойдзеш на с. 31

# *Хуткая «зімовая» выпечка*

Адчуўшы водар імбіру і карыцы,
я адразу ж прыгадваю зіму.
А вы?
Дык давайце сёння прыгатуем
і паласуемся смачным печывам
па нескладаным рэцэпце.
Рыхтуйце пабольш
спецый ;)!



Для печыва нам спатрэбіцца:




РЭЦЭПТ
200г мукі, 100г масла
100г цукру, 1 яйка
1 ч.л. соды
1 ст.л. мёду.
2 ч.л. молатага імбіру,
1 ч.л. молатай карыцы,
1/2 ч.л. молатага кардамону
1/2 ч.л. молатай гваздзікі,

ч.л. = чайная лыжка
ст.л. = сталовая лыжка
1/2 = палова

Змяшай у місачцы молатыя спецыі, дадай імбір і соду.
Усып муку.

У асобным посудзе расцяры мяккае масла і цукар.
Дадай яйка і крыху падагрэты мёд.
Узбі міксерам.



Выкладзі муку са спецыямі ў гэтую масу.
Замясі густое цеста.
Пакладзі яго ў халадзільнік на паўтары-дзве гадзіны.



Потым раскачай цеста, таўшчынёй каля паловы сантыметра.
Рознымі формачкамі зрабі печыва.



Яго трэба выпякаць у цёплай духоўцы 5-7 хвілін.
Печыва хутка будзе гатова, неператрымай яго!






Нічога няма смачнейшага за «зімовую» выпечку з малаком!





*Вольга Palunisa -*
***мастачка выцінанкі і народны майстар Беларусі:***

***«Выцінанка – асноўны кірунак маёй творчай і грамадскай дзейнасці. Шчыры дзякуй беларускай спадчыне за тую безліч вобразаў, сімвалаў і генетычных кодаў, якія дадзены мне для карыстання і з`яўляюцца мовай у маіх руках!»***





# Незвычайная цацка са шкарпэтак



Пазнаёмся з маёй
бандай снегавікоў.
Цудоўныя, так?
І вельмі лёгка робяцца!
Патрэбна зусім мала матэрыялаў
- і ў цябе будуць такія ж
прыгожыя цацкі.
Цудоўнае зімовае ўпрыгожванне
ці падарунак.

## Патрэбныя матэрыялы і інструменты:

«вясёлыя» шкарпэткі розных колераў, шпількі, гузікі, ніткі, нажніцы, клей.



1. Вазьміце шкарпэтку і адрэжце ніжнюю частку перад самай пяткай.



2. Цалкам напоўніце гэтую частку шкарпэткі рысам і звяжыце ніткай



3.Пальцамі падзяліце шкарпэтку так, каб атрымалася форма снегавіка. Завяжыце там ніткай, каб цацка захавала форму.



4. Для шапачкі можна адрэзаць пятку ад іншай шкарпэткі альбо ўзяць кавалак з яе верхняй часткі.



5. Надзеньце шапачку на галаву цацкі і прымацуйце яе ніткай.



6. Для шаліка проста трэба адрэзаць палоску са шкарпэткі...



7. ...і завязаць на шыі снегавіка.



8. Пры дапамозе некалькіх шпілек робім снегавіку вочы і нос.



9. Калі хочаце, то яшчэ прыляпіце на жывот некалькі гузікаў з дапамогай універсальнага клею.



**Ваш снегавік гатовы!!!**





Яшчэ дабавіць сабе «зімовага» настрою» можна, выразаўшы прыгожыя сняжынкі на папяровай устаўцы ў наш часопіс.
**Дадай снегавікам снегу!**

# Christmas and New Year/Раство і Новы год



Раства і Новы год –
адны з самых доўгачаканных
святаў сярод дзяцей ва ўсім
свеце. Давай вывучым разам
некалькі святочных слоў
на англійскай мове!
Пастаў лічбу каля патрэбнага
слова на малюнку.

## Цікавы выраз

Ці было ў цябе калі-небудзь
белае Раство? А зялёнае?
У англійскай мове ёсць выразы
white Cristmas (белае Раство) і
green Christmas (зялёнае Раство).
Калі на свята выпадае снег,
Раство белае. Але ж калі
снегу няма – зялёнае.
Цікава, якія святы
будуць сёлета,
green ці white?

## Christmas and New Year/ Раство і Новы год

1. star – зорка (кажы ста)
2. Christmas tree – ялінка (кажы крісмэс трі)
3. deer – алень (кажы дзіэ)
4. ornament – урыгожванне (кажы онэмэнт)
5. snowflake – сняжынка (кажы сноўфлэйк)
6. tinsel – мішура (кажы цінсл)
7. Christmas lights – ліхтарыкі (кажы крісмэс лайтс)
8. Santa Claus – Санта Клаус (кажы сэнтэ клоз)

старонка 8. Лабірынт
дарога 2

старонка 9. Шыфроўка
Сам Зюзя стукае,
людзей ушчувае.

старонка 13. Рэбус
Завіруха
Студзень

старонка 13.
Гэты гном з'еў марожанае



старонка 12. Загадкі
1. Рака пад лёдам 2. Мароз
3. Мароз, елка, хвоя і ядловец
4. Снег 5. Зіма і Дзед Мароз
6. Санкі 7. Лёд у палонцы.
8. Лядзяш

старонка 13. Блытанка
1. сакавік, студзень, снежань, люты
2. канькі, каляды, лыжы, санкі.
3. завея, мяцеліца, батлейка, вецер.
4. пернік, цукеркі, ламанцы, кажух

старонка 22. Сняжынкі



старонка 22. Судоку

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| 2 | 6 | 1 | 4 | 3 | 5 |
| 3 | 5 | 2 | 6 | 1 | 4 |
| 1 | 4 | 3 | 5 | 2 | 6 |
| 6 | 1 | 5 | 3 | 4 | 2 |
| 5 | 3 | 4 | 2 | 6 | 1 |
| 4 | 2 | 6 | 1 | 5 | 3 |

старонка 18. Словаловы – СНЯЖЫНКІ

| | | | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| З | С | Н | Е | Ж | А | Н | Ь | В | Е | С | Я | С | А | Н |
| А | В | С | Б | І | Л | С | Н | Е | Г | Я | Л | О | С | К |
| К | Е | Я | У | Г | Ь | К | І | В | А | Л | Б | А | Ц | І |
| У | О | Х | С | Е | Л | Л | Ю | Т | Ы | І | Л | Т | Ь | Н |
| Ц | Л | Я | К | О | Ў | Р | К | С | К | Н | Е | Й | К | Л |
| Ц | А | Д | А | Р | З | О | А | В | А | К | Л | О | А | Ё |
| Я | В | Я | Ч | Э | А | Г | Ж | Я | К | А | П | Д | Е | Н |
| Л | Ш | Е | Н | Ь | Н | К | А | Т | А | Ц | Я | З | В | А |
| Я | Я | З | Н | А | К | Ы | Л | А | В | А | А | Ь | З | М |
| Д | З | Д | У | С | В | Е | Ё | Д | К | А | З | Я | Д | Я |
| С | Т | У | Р | А | Р | Ч | К | А | М | У | Н | М | О | Ш |
| Ц | А | Д | А | М | О | Ы | К | А | Р | Ш | К | А | К | А |
| У | П | К | І | К | З | Д | З | Я | Ц | І | Н | В | А | М |
| К | Е | Р | К | А | Л | Я | Д | Н | І | К | С | Т | З | І |
| З | Ю | З | Я | Р | А | Н | І | Ш | І | П | А | В | У | К |

старонка 30. Англійская мова




старонка 23



| | |
|---|---|
| | 3 |
| | 9 |
| | 5 |
| | 7 |
| | 1 |
| | 8 |
| | 2 |

старонка 23




Над нумарам працавалі:
Наталка Дзінкель, Марына Кузьмянкова, Волька Жарнасек

Пры падрыхтоўцы нумара выкарыстоўваліся фотаздымкі з сайтаў www.fotobel.by, pixabay.com, freepik.com,

Калі раптам у часопісе не падпісаны Вашы фотаздымкі, паведаміце ў рэдакцыю - абавязкова падправім гэта.

Выказваем шчырыя падзякі:

за фотаздымкі
Змітру Іўчанку і Андрэю Вашкову (стар. 14-15),
Віктару Буіну (стар. 25),
Студэнцкаму этнаграфічнаму таварыству (стар. 4-5);

за малюнкі
Юліі Галавач (стар. 14-15), Аксане Шаровай (стар. 4-5, 16-17);

за дапамогу ў падрыхтоўцы нумара:
Наталлі Сухой,
Volha Palunisa,
Валянціне Дзмітрыеўскіх (стар. 13),
Вадзіму Мохаву;

за дапамогу ў карэктуры
Алі Сідаровіч.

Мае дарагія чытачы, я буду вельмі рады вашым лістам.
Лістуйце мне на паштовы адрас: 247673 г. Рагачоў, а/с 1
альбо на электронны адрас chasopis.zheuzhik@gmail.com
Таксама мяне можна знайсці ў Фэйсбук https://www.facebook.com/chasopis.zheuzhik
Інстаграм chasopis.zheuzhyk
Тэлеграм t.me/chasops_zheuzhyk

Да новых сустрэч!

Будзьце ўважлівы!
99,5% матэрыялаў
змяшчаюць моцную любоў
да беларускай мовы

Тэма наступнага нумара

# Родная мова



Выцінанкі сняжынак нам ласкава дала ў карыстанне мастачка і Народны майстар Беларусі **Наталля Сухая**.

Яна ўжо больш за 20 год займаецца гэтым рамяством і ўмее выдатна «размаўляць» на мове выцінанкі.

З дапамогай толькі нажніц і паперы спадарыня Наталля можа ўвасобіць любы фальклорны вобраз.

Дзякуй! Поспехаў Вам!!!

